# Сустрэча ў Віскулях



У канцы мінулага месяцы ў рэзідэнцыі "Віскулі" ў Белавежскай пушчы сустрэліся прэзідэнты дзвюх суседніх дзяржаў — Беларусі і Польшчы. Адзін з іх кіруе краінаю ўжо паўтара года, другі — толькі што заступіў на свой высокі дзяржаўны пост. Але ж, нягледзячы на розніцу "ў кіруючым узросце", такога не адбылося, што больш вопытны прэзідэнт павучаў менш вопытнага. Перагаворы вяліся на роўных і па самаму шырокаму спектру пытанняў міждзяржаўных адносін. Два Аляксандры — Лукашэнка і Квасьнеўскі — абмеркавалі сітуацыю, звязаную з пашырэннем НАТО на ўсход, закранулі і такую тэму, як транспартны шлях праз Польшчу ў Калінінградскую вобласць.

Удзялілі прэзідэнты ўвагу і праблеме стварэння еўрарэгіёнаў "Буг" і "Нёман". Аляксандр Лукашэнка праінфармаваў, што, згодна з дагаворанасцю, еўрарэгіён "Нёман" аб'ядноае Гродзенскую вобласць, Літву, Калінінградскую вобласць і паўночную Польшчу, а еўрарэгіён "Буг" — захад Украіны, Беларусі і адпаведныя польскія ваяводствы. Стварэнне гэтых аб'яднанняў беларускі прэзідэнт звязвае з неабходнасцю "развязаць рукі вытворцам гэтых рэгіёнаў, каб яны маглі нармальна супрацоўнічаць".

У гэты ж дзень у консульстве Польшчы ў Брэсце Аляксандр Квасьнеўскі сустрэўся з беларускімі парламентарыямі. Нягледзячы на тое, што не ўсе дэпутаты, хто прадстаўляў рэспубліку на сустрэчы, згодны з цяперашняй палітыкай кіраўніцтва краіны, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, прыемны перш за ўсё факт імкнення прэзідэнта Польшчы азнаёміцца з усімі палітычнымі плынямі ў нашай рэспубліцы.

**Як ужо гаварылася, у час сустрэчы ў Віскулях прэзідэнты двух краін мелі перагаворы наконт наладжвання дарогі з Усходу ў Калінінградскую вобласць праз Польшчу, мінаючы Літву, якая не дала згоду, каб гэты шлях пралёг праз яе тэрыторыю. Зараз аб гэтым праекце гавораць многія і па-рознаму. А вось думка польскага штотыднёвіка "Не".**

РЭПЛІКА

## ТЫДНЁВІК "НЕ" ДЗЕЛІЦЬ ЗЕМЛІ. ГЭТА НЕДАРЭЧНЫ ЖАРТ — ЛІЧАЦЬ У БЕЛАРУСКІМ МЗС

28 сакавіка скандальна вядомы штотыднёвік "Не" Ежы Урбана надрукаваў сваю версію бачання таго, як будзе вырашацца праблема "калідора" з Беларусі ў Калінінградскую вобласць.

Сутнасць артыкула Пятра Гадзіноўскага "Пастка Прымакова" ў тым, што аўтар сцвярджае аб існаванні плана абмену землямі паміж Польшчай і Беларуссю-Расіяй: доўгай вузкай палоскі польскай тэрыторыі ўздоўж літоўскай мяжы на горад Гродна і ваколіцамі. Паводле інфармацыі "Не", гэты план прывёз польскаму прэзідэнту расійскі міністр замежных спраў Яўген Прымакоў, — прычым як быццам ідэя гэта існавала яшчэ ў 1993 годзе. Штотыднёвік "Не" аргументуе гэты план абмену тэрыторыямі вялікай важнасцю для мілітарызаванай Калінінградскай вобласці камунікацыйнага калідора, з другога боку — настальгічнымі пачуццямі палякаў да Гродна, горада з мноствам касцёлаў і вялікай гістарычнай спадчынай. Беларусь як суверэнную дзяржаву часопіс "Не" не ўспрымае, а падае яе толькі ў звязцы "Беларусь-Расія". Аўтар "Не" іранічна піша, быццам бы пасол Расіі Кашлеў жартаваў на гэты конт: аддалі б вам (палякам) за калідор Вільню ці Львоў, але, на жаль, гэтыя гарады нам не належаць...

Цяжка сказаць, ці прыведзены ў гэтым артыкуле рэальныя факты, ці гэта сапраўды першакрасавіцкі жарт, як адкаменціравалі яго ў беларускім МЗС. Відавочна, што як жарт успрымаюць яго і сур'ёзныя польскія кіраўнікі.

## З Днём нараджэння!

Гэтыя словы, ідучыя з самых глыбінь нашых сэрцаў, мы адрасуем Ганне Аляксандраўне Грыдзюшка, вельмі паважанаму і адданаму сябру таварыства "Прамень". Наша зямлячка, актыўны ўдзельнік розных мерапрыемстваў, аматар беларускага слова, чуллівы і спагадлівы чалавек, яна карыстаецца ўсеагульнай павагай сваіх сяброў па "Праменю". Газета далучаецца да іх віншаванняў і зычыць вам, спадарыня Ганна Аляксандраўна, моцнага здароўя і доўгіх год жыцця.

х х х

Бальшакова Любоў Андрэеўна, паміма таго, што прыгожая жанчына і мае добры густ у мастацтве харавога і сольнага спеву, яна з'яўляецца бяззменнай гаспадыняй беларускіх абрадавых святаў. Карыстаючыся такой магчымасцю, робіць усё ад яе залежачае, каб кожнае такое мерапрыемства прайшло як мага лепш, прынесла найбольш асалоды ўсім удзельнікам ці то ражаства, ці то дзядоў, Вялікадняў і г. д. У дзень твайго нараджэння, Любоў Андрэеўна, мы прыносім Вам сваю ўдзячнасць за такія вашы намаганні і аб'яднаўшы ўсе нашы добрыя пачуцці, дарым іх вам у святочны дзень вашага нараджэння. Шчасця вам, радасці і кахання.

**Сябры ТБМ "Прамень".**

Паважаны пан Алесь, наш добры і ласкавы спадар і кіраўнік. Не знойдзецца, мабыць, добрых слоў, якія былі б дастойны такой падзеі, якой з'яўляецца дзень вашага нараджэння. Няхай і надалей ваша сціпласць і цярпімасць да нас, рознахарактарных людзей, будзе для нас прыкладам у нашых паводзінах. Усё, што яшчэ не сказана пра вашу дабрату і павагу да ўсіх нас, мы дададзім, калі ўзнімем у вас гонар шыпучую чару з шампанскім. Мацуйся і мужайся нам на радасць. Ды здзейсніцца на практыцы з вашаю дапамогаю наша жаданне дагнаць і перагнаць нашых сяброў са "Світанка" выключна па ўсіх паказчыках. З днём нараджэння, Алесь Аляксандравіч, свежых сіл вам, бадзёрасці і натхнення на ніве беларускага адраджэння.

**Твае сябры-праменеўцы і ўсе безумоўныя прыхільнікі нашага моўнага таварыства.**

Падышоў яшчэ адзін дзень нараджэння ўсімі намі вельмі паважаемай беларускай народнай цаліцельніцы Любашы Міронавай. Слава аб ёй узнеслася ажно пад тыя самыя нябёсы, адкуль яна чэрпае сілы і папаўняе свой дар цалення, каб потым вылечваць нас, вяртаць нам здароўе, радасць жыцця. Яна ўсю сябе без астатка аддае людзям, клапоціцца аб кожным з нас, забываючыся ў такіх справах пра свае недамаганні. А яны ёсць і ў яе, як і ў кожнага з нас. Вось і маецца такая мажлівасць, скарыстаўшы яе дзень нараджэння, кожнаму з нас пажадаць і ёй здароўя, самых светлых дзён у яе жыцці. Мы будзем жыць думамі і спадзяваннямі, што ёсць сярод нас чалавек нашага, беларускага паходжання, які прыдзе нам на дапамогу, калі што з кім здарыцца непрыемнага. Запэўніваем цябе, наша паважаная выратавальніца, што і мы цябе не пакінем, будзем разам у радасці і ў горы. Запэўніваем вас у гэтым мы, вашы сябры па таварыству "Прамень", і ўсе тыя, каму вы дапамаглі сваёю святою дзейнасцю. Хай ніколі не мінае вас божае благаславенне. З днём нараджэння, спадарыня Міронава.

# Абазначаны планы накірункі

*(Пачатак на 1-й стар.).*

суседзі, што ў нас больш 100 кіламетраў агульнае мяжы, што ў нас агульная рака. І на гэтай агульнай мяжы з беларускага боку праходзяць на Вентспілс і нафтапроводы, і прадуктапровад, па якому з Полацка ідуць нафтахімічныя рэчывы. Па гэтай жа граніцы цягнецца чыгуначная дарога, якая злучае Латвію з Усходам, пракладзены дзве аўтамагістралі. Адна з іх — высокага класа, агульнадзяржаўная, у свой час дарога саюзнага значэння: Рыга—Арол праз Віцебск—Бранск. На гэтай граніцы 3 адміністратыўныя раёны: Мёрскі, Верхнедзвінскі, Браслаўскі. Прадоўжым пералік: на нашай агульнай граніцы ёсць пагранічны атрад у Полацку, дзве таможні — у Верхнедзвінску і Браславе. Увогуле, гэта насычаная і камунікацыямі і структурамі — адміністратыўнымі і гаспадарчымі і ўсялякімі другімі — паўнакроўная добрасуседская кантактная зона, называемая граніцаю. Гранічам мы — латышы і беларусы, вось чаго няма ў той песні.

Я думаю, працягваў сваё выступленне спадар гандлёвы саветнік, што перш чым гаварыць пра бізнес, пра беларускі гандлёвы рынак, то яно не пашкодзіць зрабіць невялічкі экскурс у тое, што прадстаўляе сабою Беларусь і яе жыхары-беларусы.

Беларусь — гэта дзяржава ў самым цэнтры Еўропы, наша роднёнькая Беларусь, якую мы, з-за яе абрысаў на геаграфічнай карце, яшчэ пяшчотна называем кляновым лісточкам. Дык вось гэты лісточак знаходзіцца ў цэнтры Еўропы з некаторым змяшчэннем на ўсход. У нас дзвесце з лішкам тысяч квадратных кіламетраў тэрыторыі, шэсць адміністратыўных адзінак вобласцей: Мінская, Магілёўская, Віцебская, Гомельская, Гродненская, Брэсцкая. Нас, беларусаў, 10 мільёнаў 300 тысяч. З іх прыкладна 76—80 працэнтаў — этнічныя беларусы, астатнія — дзеці розных народаў. Якіх іменна? Словы на гербе — Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся! — пісаліся на чатырох мовах: беларускай, рускай, польскай, яўрэйскай. Гэта адлюстроўвала найбольшае прадстаўніцтва гэтага насельніцтва рэспублікі. Калі ж гаварыць аб другой часцы дэмаграфічнай структуры нашага народа, то дзесьці шэсць з паловаю мільёнаў — працаздольнае насельніцтва, астатнія — старэчыя і дзеці. Паўтара мільёна занятых у народнай гаспадарцы — спецыялісты вышэйшай і сярэдняй адукацыі. У Беларусі на кожную тысячу жыхароў прыходзіцца 288 чалавек з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй.

Такі наш агульнакультурны тэхнічны ўзровень. Ён рашучым чынам вызначае сёння і структуру нашай эканомікі. Прамысловасць у нас дамініруе. У прамысловасці — машынабудаўніцтва, хімія, лёгкая прамысловасць, харчовая, лесаперапрацоўка — яны не з'яўляюцца дамініруючымі. Што яшчэ характэрна для нашай эканомікі? Асноўныя фонды ў пераважнасці ствараліся пасля вайны, і толькі дзесьці каля чатырох з паловаю створаны за апошнія 15—20 гадоў. У машынабудаўніцтве пераважае аўтамабільны транспарт, станкі, электроніка, вылічальная тэхніка. На гэты лік у нас ёсць нямала сучасных, высокага класа вытворчасцяў, якія з'яўляюцца ўласна таварнай крыніцай, у тым ліку і для магчымых кантактаў — гаспадарчых, эканамічных, гандлёвых — паміж нашымі краінамі. Найбольш выразней прадстае хімічная прамысловасць, нафтахімія, хімія мінеральных угнаенняў, палімерыя. Вось адзін прыклад. Па калійных угнаеннях Беларусь уваходзіць у сусветную сямёрку краін, якія трымаюць сусветны рынак калійных угнаенняў. Па нафтаперапрацоўцы мы таксама выглядзім нядрэнна: мы маем такія вытворчыя магутнасці, якія дазваляюць за год перапрацаваць 38-40 мільёнаў тон нафты. Такіх паказчыкаў дасягаюць Мазырскі і Новаполацкі нафтаперапрацоўчыя заводы.

Мы сёння прапрацоўваем цікавыя праекты, вынашваем планы, прымалі і прымаем удзел у развіцці, распрацоўцы і аб'устройстве нафтаносных і газавых месцанараджэнняў Сібіры, адкуль да нас паступае сыравіна. Кіраўніцтва рэспублікі, у тым ліку і Прэзідэнт, двойчы абмяркоўвалі і агаворвалі гэтыя пытанні, сам А. Лукашэнка асабіста пабываў у раёнах Заходняй Сібіры. Вырашаецца пытанне аб стварэнні структур, выпрацоўцы міждзяржаўных



Расшыраецца Новаполацкі нафтаперапрацоўчы завод.

форм адносін, — такіх, якія дазволілі б поўнасцю загрузіць і пераканструяваць тэхнічна названыя ўжо заводы, стварыць новыя магутнасці ў раёне Новаполацка. Я расказваю пра гэта ў той сувязі, што Новаполацкі гігант знаходзіцца на мяжы з Латвіяй. А калі мець на ўвазе буйнейшы на Балтыцы тэрмінал, — Вентспілскі порт, які апрацоўвае паліўныя і хімічныя прадукты, то тады, я мяркую, паважаная аўдыторыі не абыякавы нашы планы, якія мы спрабуем выпрацаваць і ажыццявіць. Гэта будзе, безумоўна, наша агульная справа, так ці інакш мы будзем у гэтай справе адзін ад другога залежаць.

Я агаварыўся, што слабей другіх прадстаўляе патэнцыял галін прамысловасці, звязаны з задавальненнем, патрэбнасцей насельніцтва — лёгкая і харчовая прамысловасць. І па аб'ёму іх удзельная вага меней дзесяці працэнтаў у агульным аб'ёме эканамічнага і прамысловага патэнцыяла рэспублікі. Мы падобраму завідуем вам, латвійскаму боку, што ў вас вельмі салідна гэтыя пытанні вырашаны. Мы зрабілі для сябе такія вывады і па выставах, дзе гэтыя галіны латвійскай прамысловасці прадстаўлены, і па вітрынах, прылаўках магазінаў, па рэкламных часопісах. Думаем, што удзельнікі нашай сустрэчы змаглі б выкарыстаць бізнес Латвіі і вось гэтую сітуацыю, якая характэрна для нашай эканомікі, для таго, каб вашы дасягненні аб'яднаць з нашымі недалікамі, з нашым дэфіцытам і з карысцю для нас абодвух скрануць гэтую справу ў лепшы бок.

Далей дакладчык ахарактарызаваў становішча спраў у прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. Ён прывёў такі факт, што ў апошнія гады прабывання ў Саюзе гэтая галіна была ўзорам для ўсіх, хто займаўся гэтай справай. І сёння гэты патэнцыял выкарыстоўваецца не поўнасцю, і можна было б мець добры бізнес, калі б устанавіць добрыя сувязі з прадпрыемствамі гэтай галіны. Што характэрна для прамысловасці будаўнічых матэрыялаў? Па-першае, сценавыя матэрыялы. Іх вырабляецца вельмі многа і самых розных, асабліва гліняная і сілікатная цэгла, сілікатныя блокі. Заслугоўваюць увагі нашы аздабляльныя матэрыялы: плітка, шоўкаграфія на італьянскім, на не італьянскім абсталяванні ў Мінску, Брэсце, другіх месцах. Наша плітка ўпаўне карэспандыруецца з тым, чым сёння наваднёны рынак Балтыі і Рыжскі ў тым ліку. Па цэнах з улікам усялякіх нюансаў мы выгадна адрозніваемся. З дахавых матэрыялаў усюды на прыбалтыйскім рынку добра разыходзяцца рубероід, мяккія дахі, асабліва новая прадукцыя Асіповіцкага завода, вырабляемая на базе гідрасцяклаізоляў і ім падобных. І зусім нядаўна, у мінулым годзе, запушчана магутнасць гідрасцеклаізола (г. Бяроза, Брэсцкай вобласці). Многа вырабляецца шкла: ліставога, ваконнага, бытавога, посуду, хрусталю, сцяклатары.

Я не выпадкова даўжэй застанавіўся на прамысловасці будаўнічых матэрыялаў, бо, на наш погляд, гэта можа быць аб'ектам і прадметам паспяховага бізнеса.

Пасля гэтага Спадар Ананіч расказаў пра стан спраў у сельскай гаспадарцы, у інфраструктуры. Для рэспублікі быў і застаецца актуальным аўтамабільны транспарт. Бо ўвесь бясконцы паток грузаў з Усходу на Захад і наадварот ажыццяўляецца праз нашу рэспубліку. Нават, як вы ўжо ведаеце, шлях "з варaг у грэкі" таксама пралягаў праз Беларусь па Дняпру і другіх рэках і сістэме шматлікіх каналаў. Чыгуначныя дарогі, аўтамагістралі Беларусі ў нядрэнным становішчы. Але ўсё тое, што звязана з сэрвісам — тэхнічным, сацыяльным, бытавым — усё гэта, як мы спадзяемся, будзе аб'ектам бізнеса. Вось куды скіруюцца структуры, грошы, людзі, каб арганізаваць аўтазапраўкі, рэстараны, гасцініцы і ўсё другое, што трэба на дарозе. Я гавару аб гэтых рэчах як аб інфраструктуры. А ёсць другі структурны элемент эканомікі інфраструктуры — сувязь. І тут нямала праблем, вартых увагі бізнесменаў.

Некалькі слоў пра лясную гаспадарку. Наша рэспубліка, як і Латвія, не бязбедна лясамі. Але і тут — хоць гэта і лес — шырокае поле дзейнасці для прадпрымальнікаў. Міністэрства лясной гаспадаркі Беларусі шукае партнёраў па цэламу раду пазіцый: па набалансу, па піламатэрыялах, па зрубленых хатках, па грыбах, ягадах. Хто зацікаўіцца гэтым, у Пасольстве дапамогуць адрасамі, выведуць на канкрэтныя арганізацыі і патрэбных людзей.

### З выступлення А. А. Хуцылая

Я дзякую вам за прадастаўленую магчымасць наведаць Латвію і яе сталіцу Рыгу. Азнаёміўся, наколькі дазваляў час, з сітуацыяй у эканоміцы Латвіі па расказах і аб'ездах і з гэтай пазіцыі пачынаю выступленне. Спадар Хуцылай паведаміў, што Міхаіл Апанасавіч Марыніч прасіў перадаць словы ўдзячнасці за паступіўшае на яго імя запрашэнне на сённяшнюю сустрэчу і заклікаў садзейнічаць гандлёва-эканамічным сувязям двух краін. Ён выказаў гатоўнасць прыязджаць на такія сходы і сустрэчы. Я ж, сказаў пасля гэтага ўступу выступаючы, прыйшоў да высновы, што Латвія зрабіла вялікія крокі ў пытаннях прыватызацыі, землеўстройства. Па гэтых пазіцыях наша рэспубліка адстае. Што датычыць глабальнай эканомікі РБ, то мы супрацоўнічаем з вамі, 123-й краінай. Адкрыта 21 гандлёвае прадстаўніцтва, з іх — 19



На беларускім нафтапромысле.

пасольстваў. У гэтым годзе плануем адкрыць яшчэ 5 пасольстваў. Як бачыце, рамкі гандлёвага супрацоўніцтва расшыраюцца. Што датычыць тавараабароту з вашай рэспублікай, то РБ наблізілася да 9 мільярдаў долараў, з іх 450 мільёнаў — адмоўнае сальда. Радуе эканамічнае супрацоўніцтва з Латвіяй. Яно, як ужо гаварыў аб тым спадар Пасол, амаль зраўнялася з 1992-м годам. Радуе тое, што сённяшняя сустрэча праходзіць па слядах нядаўніх сустрэч з бізнесменамі Амерыкі, Германіі. І ў Чэхіі былі такія сустрэчы. У ходзе іх мы лепш пазнаем адзін аднаго, выразней праступаюць нашы магчымасці. Я, напрыклад, скажу, што ў нас у рамках нетарыфнага рэгулявання засталіся тры пазіцыі, якія знаходзяцца пад ведамам дзяржавы. Усе астатнія адпушчаны на свабодны рынак. Пагэтаму я запрашаю вас да супрацоўніцтва: не трэба баяцца якіхсьці пытанняў па ліцэнзіях, квотах.

Першым нашым гандлёвым партнёрам застаецца Расія, на другім месцы — Германія, далей ідуць Украіна, Польшча. Узровень Латвіі ў гандлёвых адносінах з Беларуссю амаль такі ж, як і Злучаных Штатаў Амерыкі. (Пасол удакладняе: з дванаццатага месца перайшла на шостае). Спадар Хуцылай застанавіўся на некаторых заканадаўчых актах, якія ўжо падрыхтаваны і будуць найлепшым чынам спрыяць развіццю знешняга гандлю. Самы складаны з іх — аб экспартным кантролі. Перш за ўсё ён будзе весціся за перамяшчэннем такіх матэрыялаў, якія могуць быць выкарыстаны для вырабу рознага роду ўзбраенняў. У заключэнне прамоўца расказаў аб тым, якім чынам будзе ажыццяўляцца рээкспарт, удакладніў асобныя дэталі, звязаныя з двухбаковымі гандлёвымі адносінамі Беларусі і Латвіі.

Усіх, хто прыйшоў на даную сустрэчу, сярод іншых цікавілі пытанні таможаннага характару, і таму з вялікай увагай было выслухана выступленне намесніка начальніка таможанных падаткаў Таможаннага камітэта РБ Вячаслава Іванавіча Каратышкіна. Кароткім, але змястоўным была яго прамова. Трэба папярэдне сказаць, што названы камітэт узначальвае Пётр Васільевіч Грэчка, той самы спадар, што займаў пасаду самага першага гандлёвага саветніка Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвіі. Прамоўца сказаў, што ў яго абавязкі ўваходзяць даходы, плацяжы — усё тое, што звязана з тарыфамі, стаўкамі, пошлінамі. Ён прызнаўся, што з 1 мая 94 года і да 1 мая 95 года да тавараў з Латвіі прымяняліся стаўкі, павялічаныя ў два разы. Гэта была тая перашкода, якая запавольвала перамяшчэнне латвійскіх тавараў на беларускі рынак. Але, як сказаў у сваім дакладзе спадар Ананіч, з другога квартала таго года справа пайшла лепш. Я ўдакладню, чаму. 3 мая 95 года ў адпаведнасці з падпісаным двухбаковым пагадненнем паміж нашымі краінамі для латвійскіх тавараў уведзены рэжым найбольшага спрыяння. Але ж з восені мінулага года ўсётакі ўведзены больш жорсткі кантроль за перамяшчэннем транзітных грузаў. Гэта выклікана тым, што 40 працэнтаў іх, скажам, не дасягалі Украіны, раствараліся на тэрыторыі Беларусі без узымання ў такіх выпадках пошлін. Такі кантроль мы робім згодна з Указам прэзідэнта. Мы прапускаем транзітныя тавары пры наяўнасці фінансавых гарантый на суму таможаных плацяжоў. Дапусцім, вы вязеце груз на суму 10 тысяч долараў. Стаўка пошліны на тавар — 10 працэнтаў. Зыходзячы з гэтых дадзеных, вы плаціце заклад 1000 долараў, г. зн. плаціце 10 працэнтаў ад кошту тавараў. Кантроль перамяшчэння транзітных тавараў, такім чынам, ажыццяўляецца не з дапамогаю якога-нібудзь прыстаўленага назіральніка, а рублём, грашыма. Не так і не там збыў тавар — задатку не атрымаеш. Такога правіла няма, калі грузы перавозяцца цягніком ці па карнету TIR. Каб як-нібудзь аблегчыць перавозку падакцызных грузаў, у рэспубліцы сумесна с Міністэрствам замежных спраў падпісана пагадненне, згодна якому спецыяльнае падраздзяленне гэтага міністэрства — АСАН ажыццяўляе канвой такіх грузаў. Кошт канвоя — 1 долар за кіламетр (ажыўленне ў зале). Гэта крайняя мера. Самая ж нармальная з'ява — унесці заклад. Ён прымаецца на граніцы. Замест заклада можна прад'явіць фінансавыя гарантыі на суму заклада, дадзеныя банкамі Беларусі. А можна гэта зрабіць праз свае, латвійскія банкі, шляхам пералічэння на дыпазіт таможні гарантыйнай сумы.

Наступны варыянт, на які прасілі звярнуць вашу ўвагу браслаўскія таможаннікі (пераход Урбаны). У Браславе маюцца два склады — 14 км ад Урбаноў. Калі ў вас штосьці не спрацавала і каб не затрымліваць вашу машыну, пад канвоем таможанніка вы адпраўляеце груз на гэты склад, а пасля спакойна займаецеся сваімі аперацыямі. Ёсць варыянт, што ваш груз да месца прызначэння даставіць транспарт з Украіны, калі груз ідзе туды.

На пераходзе Урбаны, аб гэтым прасілі давесці да вашага ведама, ёсць урачэбныя і ветэрынарныя службы і што агранічэнняў на правоз харчовых прадуктаў больш няма.

Яшчэ адна інфармацыя — з сённяшняга дня забаронены ўвоз табачных вырабаў, не маркіраваных акцызнай маркай пад цэлафан. Алкаголь і табачныя вырабы можна правозіць толькі праз Верхнедзвінскую таможню. Чакаецца, што алкаголь можна будзе ўвозіць пры наяўнасці на ўсіх відах упаковак акцызных марак. Увогуле ж, як сказаў аб гэтым спадар Каратышкін, правезці вінагарэлачныя вырабы змогуць толькі тыя, у каго ёсць ліцэнзія на права аптовага продажу, збярэжэння і рэалізацыі гэтых вырабаў. Ліцэнзіі ж будзе выдавацца толькі пасля экспертызы на якасць. Гэта трэба ведаць прадпрымальніку, каб не заключыць кантракт з тымі фірмамі, якія не маюць ліцэнзій.

Прамоўца яшчэ раз нагадаў пра тое, якія зборы ўзымаюцца на таможні. Яны наступныя: збор за таможаннае афармленне — 0,15% ад таможаннага кошту тавара; акцызны падатак, які ўзымаецца за правоз він, табакі, легкавых аўтамабіляў, шын, ювелірных вырабаў; таможанная пошліна за тавары, абазначаныя ў пастанове N 340 ад 1 ліпеня 1995 года. Пералік іх вялікі, ён ёсць у пасольстве; падатак на дабаўлены кошт, у памеры 20%. Ён вылічваецца так: да таможаннага кошту тавара плюсуецца таможанная пошліна і дадаецца акцызны падатак. Гэта не двайное аблажэнне, як думаюць многія, гэта агульнасусветная практыка.

х х х

Выступленне спадара Каратышкіна на тэму, якая найбольш другіх цікавіць прадпрымальнікаў, выклікала мноства пытанняў. На ўсе іх даны змястоўныя адказы.

х х х

Закрыў сустрэчу Пасол Рэспублікі Беларусь у Латвіі спадар Вялічка. Ён, дарэчы, звярнуў увагу прысутных на тое, што і з беларускага, і з латвійскага бакоў многае робіцца для таго, каб бізнес шырыўся, каб умовы для гэтага з кожным годам рабіліся ўсё больш спрыяльнымі.

